NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI – CENA 60 gr.



# Ніва



№ 14 (58) БЕЛАСТОК, 7 КРАСАВІКА 1957 г. ГОД II

Пазнай сваю спадчыну

ЯНКА КУПАЛА.

## МАЯ НАВУКА

Мне мудрасці кніжнай не даў Бог пазнаці,
Мой бацька не мог даць раскошаў такіх, —
Навучыўся я слоў беларускіх ад маці
І дум беларускіх без школы і кніг.

Ад самай красы маіх дзён невясёлых
Настаўнікам быў беларускі абшар;
Усходы палеткаў і гоманы ў сёлах
Навуку сваю мне прыносілі ў дар.

Душу акрылялі прыгожасці свету,
Па гонях пад небам лунала яна,
Купалася ў сонцы вясёлкай распетай,
Сама, як вясёлка, як казка-вясна.

І п'яная чарамі, п'яная песняй,
Як сон заварожаны райскіх мясцін,
Шаптала мне дзівы цвітучых прадвесняў
І песняй лілася з паходам часін.

Бурлівая рэчка і млын гутарлівы
Адмерным, раскоцістым плюскатам вод
Складалі мне рытму мастацкія звівы,
Парадкавалі складаў раскоцісты ход.

Цяністыя бітага шляху прысады
І ў вырай лятучыя гусяў шнуры
Гармонію ўводзілі ў песельным складу,
Сачылі нязгоднай зваротак ігры.

Зялёнае поле рунеючым збожжам,
Цвітучая ў сонечны цвет сенажаць
Мне песню квяцілі узорам прыгожым,
Вучылі, як словы ў вянок завіваць.

Ад шопату спелых пшанічных калоссяў,
Ад шэлесту лісцяў узмежных ігруш
Музычнае водгулле ў песню лілося,
Звівалася з жальбамі ўскрыўджаных душ.

Шум бору адвечнага казкавым сказам
Нашэптываў смутную повесь жыцця
І песню ў шум-гоман захопліваў разам,
Заснуўшыя думы будзіў з забыцця.

А сонца, скрозь сеючы іскры па свеце,
Мне песню іскрыла нябесным святлом,
А вецер, што ў полі рве дзёрны і сеці,
Даў волю і крылле лунаці арлом.

Каса, і сякера, і цэп малацьбітны,
Магутную волатаў сілу далі:
Марозы і спёкі далі гарт нязбытны —
Мне песню, як звон, як пярун, адлілі.

Так іншай не знаўшы навукі і школы,
У пацёмках шукаў і знайшоў Божы дар:
Цяпер маймі скарбамі — думы-саколы,
Цяпер беларускай я песні ўладар.



## КІРМАШ У БЕЛЬСКУ

Чацьвёр. Раніца. Яшчэ, як кажуць, нават чэрці на кулачкі не выходзілі. Ледзь-ледзь прыкметна пачало ружавець на ўсходзе неба, а ўжо ў напрамку Бельска з розных бакоў накіроўваецца гаманлівы людскі паток. Сёння ў Бельску кірмаш.

Ідуць і едуць, жанчыны і мужчыны, хто ў драбіністым возе, вымашчаным саломай, а хто і вярхом на кані.

Нейкі пажылы дзядок з падкручанымі ўверх вусамі, акірачыў драхленькую кабылку і намагаецца апярэдзіць іншых. Кабылка сумна апусціла старэнькую галаву, адвесіла доўгую, пакорпаную ніжнюю лупу. Ледзь нагамі валачэ. А дзядок яшчэ яе закілзаў, ды «падбадзёрвае», турзаючы повадам. Сам трымаецца просценька, быццам атаман. Здавалася-б, ён век пражыў на кані. Хто ведае, мо' дзядок прыпомніў сабе нейкую баталію ў гады першай сусветнай вайны. У кожным разе, выгляд яго юнацкі.

Памалу людскі паток уліваецца ў горад. Запаўняе яго вузенькія, заўсёды забалочаныя, вулічкі. Тут жанчыны аддзяляюцца ад мужчын і са сваім таварам накіроўваюцца на свой, так званы «бабскі рынак», а мужчыны едуць на «мужчынскі рынак».

### «БАБСКІ РЫНАК».

Некалькі дзесяткаў квадратных метраў балоцістай зямлі агароджаных драцянай сеткай, хутка запаўняецца гаманлівымі жанчынамі. Кожная з іх стараецца, як найхутчэй пралезці праз вузенькі праход у сетцы, і заняць самае выгаднае мейсца, прычым не абыйдзецца без сваркі, бо кожная спяшае і не хоча ўступіць другой.

Тут проста на забалочанай зямлі (бацькі горада Бельска не лічылі патрэбным пабудаваць хоць правізарычных страганаў) сварлівыя цёткі раскладаюць свае тавары: яйкі, сыр, гамолы масла завінутыя чысценькімі кужальнымі шматкамі, побач іх (а часам і разам) рассакатаўшыеся куры, гусі, доўгавухія трусы. Ды чаго тут няма, на гэтым «бабскім рынку».

Нейкая тоўстая цётка крыкліва захвальвае скруткі белага кужалю. Побач яе, другая, раскручвае прыгожыя палавікі, а яшчэ далей, іншая вымахвае малінавага колеру дыванам.

— Моткі, моткі, найтанчэйшыя і наймацнейшыя ніткі — захвальвае свой тавар маладзенькая бадзёрая жанчына, абвешаная наўскрыж моткамі.

— Скуры, скуры, авечыя, мяккенькія, свайго вырабу! — уторыць ёй з супроцьлеглага боку нечый грубы голас.

Аднак найбольшы гоман і рух пры цётках з маслам, яйкамі і курыма. Тут і не абыякія кліенткі, а самыя панюсі з Бельска. Апранутыя, пераважна ў доўгія падношаныя, неакрэсленага колеру паліто з вылінеўшымі футравымі каўнерамі. Адразу такую адрозніш ад вясковых жанчын. Яны тут рэй водзяць.

Вось адна з іх падыйшла да тоненькай пажылой цёткі, бесцырымонна выцягнула з кошыка рассакатаўшуюся курыцу, нядбайна спытала:

— Іле тэн здэхляк коштуе?

— А Бог-жа з вамі панюська, якій-жа з яе здыхляк — запярэчыла крыўдуючыся цёта. — Я-ж яе адмыслова на кірмаш адкарміла. Толькі пабачце, панюська, яна быццам гліна цяжкая.

— Зобачымы — недаверліва сказала панюся і, адвярнуўшы курку дагары хвастом, пачала дзьмуць намаляванымі губкамі туды, кудою гэтая-ж курка яйкі зносіць. Мабыць гэткім спосабам гарадскія панюсі пазнаюць ці курка сапраўды добра адкормленая.

— Не бардзо, госпосю, не бардзо она напасёна. Ешчэ захуда до гарнка. Но, а іле-ж за то худзёнтко хцэце?

— Не крыўдуйцеся, панюся, яна не «худзёнтко» — абстайвае пры сваім цёта, — і хачу я за яе не дорага, так сказаць, грошы, усяго толькі 40 залатовачак. Калі ласка купляйце і ежце на здаровечка.

— Тшыдзесці і венцэй ані злотувэчкі — адрэзала панюся выймаючы з партфеля грошы.

— А Бог-жа з Вамі, панюська, ды хоць яшчэ пяцёрачку падбаўце, такая тлустая курачка — бядоліць цёта.

(Працяг на стар. 5).

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

## Фільмы да 40-годдзя Вялікага Кастрычніка

У СССР ідзе падрыхтоўка сцэнарыяў і фільмаў, прысвечаных 40-годдзю Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэволюцыі.

В. І. Леніну прысвячаюцца мастацкія кінокарціны «Расказы аб Леніне», «Ад лютага к кастрычніку», «Ульянавы». Найвялікшая роля Уладзіміра Ільіча Леніна ў станаўленні і ўмацаванні Совецкай улады будзе адлюстравана ў фільмах «Комуніст» — аб будаўніках электрастанцый у Шатуры, «Дзень першы», дзеянне якога адбываецца ў Петраградзе ў ноч напярэдадні рэволюцыі. У радзе кіностудый рыхтуюцца карціны на гісторыка-рэволюцыйныя тэмы. На «Мосфільме» здымаецца фільм «Сёстры» па раману А. Талстога «Хаджэнне па муках». Там-жа ставіцца фільм «Вогненныя вёрсты». На студыі «Ленфільм» ідуць здымкі карціны «Шторм» па аднайменнай п'есе В. Біль-Белацэркоўскага. Студыя імя М. Горкага здымае каляровы фільм у трох серыях «Ціхі Дон» па раману М. Шолахава. Усяго ў цяперашні час на студыях краіны на розных стадыях вытворчасці знаходзіцца звыш 20 юбілейных кінокарцін.

Цэнтральная студыя дакументальных фільмаў рыхтуе рад карцін прысвечаных гісторыі Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі, а таксама фільмы, якія адлюстроўваюць гістарычныя перамогі совецкага народа. У ліку іх — «Вялікі Кастрычнік», «Дакументы гісторыі», «Па ленінскіх месцах» і іншыя.

З БССР

# Работы вучоных фізікаў

Інстытут фізікі і матэматыкі Акадэміі навук БССР створан усяго тры гады назад, але калектыў яго навуковых супрацоўнікаў дае ўжо значную прадукцыю. Толькі ў мінулым годзе тут падрыхтавана больш 70 навуковых работ, 41 з якіх надрукаваны ў перыядычным друку або выйшлі асобнымі манаграфіямі.

Асабліва плённа працуюць доктары навук Барыс Іванавіч Сцяпанаў і Фёдар Іванавіч Фёдараў. Нельга не адзначыць манаграфію тав. Сцяпанава «Люмінесцэнцыя складаных малекул», тыраж якой вельмі хутка разышоўся не толькі ў Совецкім Саюзе, але і за граніцай. Вялікую навуковую цікавасць маюць яго працы «Адмоўная люмінесцэнцыя і адмоўны фотаэфект», «Квантавы выхад люмінесцэнцыі складаных малекул», «Контур палос паглынання і выпраменьвання складаных малекул» і інш. Усяго ім выдадзена 9 прац і 4 знаходзяцца ў друку. Ф. І. Фёдараў у мінулым годзе падрыхтаваў 12 навуковых работ, 6 з якіх знаходзяцца ў друку і 6 апублікаваны. Найбольш важнай працай з'яўляецца манаграфія «Оптыка анізатропных асяроддзяў».

## Дубовыя гаі на Палессі

Да вёскі Кірава Нараўлянскага раёна ўшчыльную падступае дубовы гай. Яго называюць «помнікам прыроды». Узрост дрэў гэтага гаю вылічваецца больш чым двума стагоддзямі. Многія дубы-волаты дасягаюць 36—37 метраў вышыні. Дыяметр іх ствалоў роўны 125—130 сантыметрам.

Векавыя гаі і дубровы знаходзяцца пад дзяржаўнай аховай.

## Выстаўка-хроніка падзей 1917 года

У мінскай бібліятэцы імя А. М. Горкага наладжана выстаўка - хроніка падзей 1917 года.

## Месцанараджэнні нафты і вугалю ў Беларусі

Доўгі час лічылася, што Беларусь амаль не мае карысных выкапняў, звязаных з глыбіннымі нетрамі, што наносы далёкага ледавіковага часу глыбока іх пахавалі.

За апошні час геалагічныя і геафізічныя даследаванні, а таксама буравыя работы ўпершыню далі магчымасць больш дэталёва вывучыць будову нетраў рэспублікі. Геолагі вызначылі перспектыўныя нафта-газаносныя структуры ў поўднёвай частцы рэспублікі. Тут адкрыта фантаніруючая нафта. У цяперашні час Беларуская кантора разведачнага бурэння Міністэрства нафтавай прамысловасці СССР працягвае буравыя работы для высвятлення структуры нафтавых залежаў і вызначэння прамысловай каштоўнасці месцанараджэння. Намячаюцца даследаванні на радзе іншых плошчаў, якія з'яўляюцца перспектыўнымі ў сэнсе нафтаноснасці.

Маюць цікавасць вынікі пошукавых работ Заходняга геалагічнага ўпраўлення на вугаль. У радзе поўднёва - заходніх раёнаў рэспублікі ўстаноўлена шырокае развіццё трэцічных вугленосных адкладанняў. У прыватнасці выяўлены і абследаваны месцанараджэнні бурых вугаляў. Вугленосныя адкладанні выяўлены таксама і ў іншых месцах Беларусі.

У цяперашні час звернута ўвага на пошукі каменных вугаляў.

У басейне ракі Прыпяць устаноўлена наяўнасць рабочых пластоў каменнага вугалю, плошчы распаўсюджання якога цяпер інтэнсіўна вывучаюцца.

## Рэканструкцыя Днепра-Бугскага воднага шляху

Раней водны шлях на ўчастку Нырча — Брэст быў разлічан на пропуск суднаў грузападымальнасцю ў 150 тон. Нырча была пунктам разгрузкі суднаў. Пабудова двух гідравузлоў на рацэ Прыпяць дала магчымасць на 120 кілометраў на захад ад Нырчы прапускаць судны з грузападымальнасцю ў 600 тон. Пунктам разгрузкі буйных суднаў стаў Пінск.

У гэтым годзе заканчваюцца работы па расшырэнню і паглыбленню рэчышча канала на ўчастку Пінск — Ляхавічы. Шырыня канала ў найбольш вузкіх месцах павялічыцца з 11 да 25 метраў.

Судны грузападымальнасцю ў 600 тон у навігацыю 1958 года пойдуць без разгрузкі ад Кіева да Ляхавіч.

Рух суднаў вялікай грузападымальнасці на ўсёй аддегласці ад Кіева да Брэста будзе адкрыт у навігацыю 1960 года.

ВАСІЛЬ ВІТКА

## БУСЛІХА СПЯВАЕ КАЛЫХАНКУ

(Урывак з «Буслінага лета»).

Як малых паклалі спаці
І заціхла ўся буслянка,
Доўга ім спявала маці
Сваю песню - калыханку:

— Спіце, дзеткі, лю-лі, лю-лі,
Вераб'і даўно паснулі.
Ад іх шуму дзень-у-дзень
Галава ажно гудзе.

Колькі бацьку я прасіла·
Тут твая улада, сіла —
Выкінь ты з гнязда іх транты,
Нам не трэба кватаранты.

Выраслі свае ў нас дзеці,
Кончаць школу ў гэтым леце.
Трэба хату зрабіць шырай,
Рыхтаваць дзяцей у вырай,
Каб тут мерзнуць не прыйшлося,
Як надыдзе тая восень.

Стануць мае дзіцяняткі,
Стануць мае бусляняткі
Хутка на даўгія ногі,
Каб шукаць свае дарогі.

Цераз моры, цераз рэкі,
Цераз горы і даліны
Шлях пракладзены спрадвеку,
Доўгі, цяжкі шлях бусліны.

Дзе цячэ блакітны Ніл
У спякотлівым Егіпце,
Нас глытае кракадзіл,
Леў хапае ў свае кіпці.

Гіне шмат буслоў па свеце,
Але мы і нашы дзеці
Вернемся ў сваю хаціну,
Прыляцім зноў на радзіму...

Моцна спалі бусляняты
У цяпле бацькоўскай хаты,
Веяў з цёмнае дубровы
Лёгкі ветрык вечаровы
І спакойны сон бусліны
Калыхаў на верхавіне.

Добра мне адсюль відно,
Што ўжо свеціцца акно,
І ў маёй далёкай хаце,
І чутно — гукае маці:
— Дзе ты дзеўся, сынку, дзе?

— Мама, я сяджу ў гняздзе.
Я твой голас добра чую,
Але тут пераначую,
Бо мой шлях далекаваты
І занадта сукаваты.
Ты, мамуся, не турбуйся,
Мне пасцель рыхтуе Бусел.

ЯНКА СКРЫГАН

## ХВІЛІНА

У вагоне са мною ехала дзяўчына, з якою я пазнаёміўся на Палессі. У мяне была туды камандзіроўка. Я жыў там, працаваў, вывучаючы патрэбныя матэрыялы для мае работы.

У Сабіны было многа свавольства і бязмежнай гарэзнасці. Часамі яна цэлымі днямі памагала маёй рабоце. А часамі звонка ўрывалася ў пакой з такою бураю настрою, што работа спынялася. Яна прыносіла з сабою светлую радасць дзяцінства. Мы ішлі тады ў поле, у мядовыя пахі лугоў і сонца. Мы выходжвалі за дзень Бог ведае колькі дарог і сцяжынак, і ўсё для нас было нова і весела. Мы не ведалі, што-б нам такое яшчэ прыдумаць і вывучалі мясцовую старажытнасць. Аглядалі старое рэчышча Прыпяці, мамантавыя раскопкі і стаянкі першабытных людзей. Купаліся на чыстым плёсе рэчкі, а вечарамі заблуджваліся ў лес і раскладвалі агні.

Мы падружылі з Сабінаю, і мне цяжка было думаць, што прыходзіць канец майму падарожжу і нам трэба будзе развітацца.

Сабіна ехала разам са мною. У вагоне было душна. Я выйшаў у тамбур і стаяў каля адчыненага акна. За акном была густая, мяккая ноч. Я локцямі ўпёрся на раму і глядзеў у змрок. У твар мне біў свежы, ласкавы вецер.

Выйшла Сабіна. Яна паклала на маё плячо сваю тонкую загарэлую руку. Яна стала поруч са мной, і мы абое глядзелі ў ноч, удыхаючы свежую, астуджаную яе цяплынь. Вецер нёсся насустрач, біўся ў нашы твары і калаціў танюсенькі шоўк Сабінінай блузкі ў яе на грудзях. Праходзілі людзі, часамі яны мяльком паглядалі на нас, а Сабіна не здымала сваей рукі, і гэта было добра. Я думаў, што яны, мабыць, хораша зайздросцяць нам, і ў глыбіні душы быў рад, бо я таксама зайздрошчу, калі бачу чужыя харошыя дачыненні.

На наступнай станцыі мы павінны былі развітацца, я думаў пра тое, як цяжка разрываць прыгожасць чалавечае цеплыні.

Сабіна, мабыць, угадала мае думкі. Яна пацягнулася ўся к акну, каб папасці тварам у вецер, і стала так блізка, што я чуў яе дотык.

— Хочаш, я не буду злазіць тут, а паеду з табою? Хочаш?

Сказаўшы, Сабіна спужалася сама сваіх слоў і быстра зняла з майго пляча руку.

— Прабач, я дурная. Я заўсёды была дурная, — сказала яна, і ў вачах у яе жахнуўся спалох. — Цяпер, мабыць, мы ніколі з табою не ўбачымся больш.

Можа на нейкую хвіліну мне здалося, што мы з Сабінаю былі разам вельмі даўно, можа, ад самага нараджэння, а я толькі цяпер заўважыў гэта і дзівіўся, што не ведаў як гэта хораша.

— Стань бліжэй, — сказаў я Сабіне. — Пакладзі рукі на плячо. Мне вельмі добра ад твае рукі.

СПОРТ



■ На турніры мацнейшых фехтавальшчыкаў СССР у сустрэчах на электрашпагах першае месца заняў малады майстар спорту мінчанін Арнольд Чарнушэвіч.

■ Чэмпіён Беларусі па боксу, майстар спорту Анатолій Хаценчык (поўцяжкая вага) у складзе зборнай СССР ездзіў на спаборніцтвы ў ФРГ. Першую сустрэчу Хаценчык прайграў, а ў другой сустрэчы перамог па ачках немца Г. Крэнца.

 

# КІРМАШ У БЕЛЬСКУ

(Працяг са стар. 1).

Панюся ўпарта ўваткнула 30 зл. ў рукі цёты і забрала курку.

— А бяры, няхай цябе трасца возьме, ведзьма ты маляваная, няхай табе гэтая нявінная курачка косцю ў горле стане — благаславіла расхваляваная цёта адыйшоўшую з куркай панюсю.

— Бач ты, «худзёнтко» знайшла, — не магла супакоіцца яна.

### «МУЖЧЫНСКІ РЫНАК»

Тут кірмаш у самым разгары. Гоман тысяч людзей зліўся ў адзін магутны гул, аж у вушах звініць. А кожны стараецца перакрычаць другога, заманіць да сябе, як найбольш пакупнікаў.

Сярод дарогі, проста на зямлі, рассеўся ахутаны саломай дзед і гандлюе душамі памёршых. Ён на свой спосаб стараецца прыцягнуць да сябе прысутных.

— Панно Пшэнайсвентша, злітуй сень над намі — прарэзліва выкрыквае дзед. Непадалёку яго канкурэнт па прафесіі захрыплым басам падцягвае:

— Прэсвятая Багародзіца, памілуй нас.

Гэтыя «гандляры» настойліва працягваюць да прахожых рукі — амаль сілай да сябе цягнуць (Мабыць Дом старцаў не зусім для іх прыдатны).

Кірмаш аж кіпіць. І чаго тут толькі няма. Пажылы дзядзька абставіўся размаляванымі ды акутымі чорнай бляхай куфрамі. Таўчэ ў куфар качалкай аж лёскат ідзе. Такім спосабам звяртае ўвагу прысутных на свой тавар. Нясмела падыйшла да яго вясковая прыгажуня. Мабыць незадоўга ёй спатрэбіцца вось такі куфэрак.

Побач разлажыўся бандар — Сяргей Назарка. Цабэркі, ражачкі, маслабойкі, бочкі аж зіхацяць на сонцы. Сяргей на Бельскі кірмаш прыехаў аж з Бандароў. 55 кіламетраў конікам — гэта-ж не жарты. Аднак Сяргей не крыўдуецца. Пакупнікі расхопліваюць яго тавар.

Далей адзін побач другога стаяць вазы са збожжам, гароднінай, яшчэ далей — каровы, вяпрукі ў клетках, авечкі.

Аднак найцікавей там, дзе ідзе гандаль коньмі.

Вось натоўп людзей акружыў прадаўца незавіднага коніка. Цана — 10 тысяч злоты. Каля прадаўца ўшчаперыўшыся ў яго руку стаіць пажылы дзядзька.

— Восім — крычыць ён захрыплым голасам і лясь! шырокай нібы лапата далонню ў далонь прадаўца.

— Прыбі! — дамагаецца дзядзька.

Прадавец адварочвае руку і вярхом трэ аб далонь дзядзькі. Гэта знак, што не ўступае.

Паўтараецца гэта некалькі разоў. У прадаўца ўжо рука нібы бурак пачырванела.

— Дзевяць, — крычыць дзядзька і лясь далонню. — Прыбі!

— Дзевяць і палавіна, — адказвае прадавец. — Прыбі!

Дзядзька ў канцы прыбівае, зазначаючы: — твой барыш і спусці за нагамі (спусці за нагамі — гэта значыць, каб прадавец яшчэ ўступіў хоць 10 злоты — на шчасце).

А гэта што-ж за развясёлы натоўп людзей сабраўся?

— Ха, ха, ха, ды хі, хі, хі, аж заходзяцца ад смеху людзі. А ну пабачым.

А, гэта наш знаёмы дзядок, які з рання быццам казак нёсся на сваёй кабылцы.

Зараз ён яе хоча прадаць. А людзі, як людзі. Падтруньваюць над старэнькім дзядком.

— Колькі, дзеду, хочаце за шкуру?

— За якую шкуру — здзівіўся дзядок.

— А вось за гэтую, што на повадзе трымаеце.

Прысутныя аж пакаціліся з рогату.

— Цьфу ты агіда, — узлаваўся дзед. — Знайшоў шкуру. Падкармі толькі яе, дык на ёй хоць зайцоў лапай па полі. Я-ж яе і не прадаваў-бы, гэта золата, а не кабылка, толькі бяда ў тым, што добрае сена выйшла. А горшага не хоча есці. Бач, вельмі ўжо далікатная, распуста.

— А чаму, дзеду, яна так ніжнюю лупу адвесіла, мо' ты яе перцам накарміў? Не суніма́ўся жартаўнік.

— Што кажаш, сынку, лупу? — перапытаў дзед.

— Ага, лупу, пабач дзядок, як з яе сліна цюркам цячэ.

— А гэта бачыш, сынку, яна пабачыла твой прыемны тварык і аж скрывілася ад уражання, таму і сліна пацякла, мо' бляваць будзе, — адцяўся дзядок.

— Усе зноў зарагаталі, а жартаўнік, насунуўшы шапку на вочы, папяўся назад.

Калі сонца апусцілася з поўдня — людзі пачалі з кірмаша раз'язджацца.

З шматлікіх фурманак даносіліся песні, падвыпіўшых людзей. Мабыць торг быў удачны.

Вузенькай дарожкай, узяўшыся пад рукі пляліся падвыпіўшыя «дзяды». Нядаўна конкурэнты, а зараз бач ты, якія прыяцелі! Мабыць і ім торг удаўся.

Толькі наш знаёмы дзядок не прыпамінаў цяпер атамана. Апусціўшы старэчую галаву вяртаўся невясёлы дахаты. За ім дрыптала яго кабылка.

Не ўдалося прадаць яе дзеду.

В. БАРШЧЭЎСКІ



...кірмаш у самым разгары.

## Змарнаваная ахвота людзей

У вёсцы Ячна ў Дамброўскім павеце, большасць насельніцтва — гэта беларусы. Навокал яе знаходзяцца вёскі: Хілімоны, Гарасімавічы і іншыя — таксама ў пераважнасці беларускія. Яшчэ ў 1949 г. на агульным сходзе ў Ячне была паднята пастанова аб пабудове Дома культуры. Ініцыятарам і арганізатарам гэтага быў свяшчэннік Янка Крэмінскі. Вёска пастанавіла, што ад кожнага селяніна збяруць па 100 ці больш злоты, пры тым самі зробяць «пустакі».

Павятовыя ўлады абяцалі дапамагчы. Зроблена дакументацыю і работа рушыла. Людзі навазілі гравію, камення пад фундамент, зроблена выкапы.

Паводле пастановы і плана — будынак меўся быць вялікі. У ім планавалі змясціць бібліятэку, чытальню, спартыўную залу, залу на кіно, сходы і розныя лекцыі, медпункт, тут меліся праводзіцца ўсе культурныя занякі.

Аднак не ўсё добра кончыцца, што добра пачынаецца. Аднойчы прыехалі ў Ячна: прадстаўнікі павятовых і ваяводскіх улад і заявілі: «Мы можам дакончыць вам будову, але пры ўмове, што сяляне з вёскі сарганізуюць сельгаскааператыў і ўсе ў яго ўступяць — інакш не дамо ні граша».

Па сённяшні дзень ляжаць горбы «пустакаў», стаіць фундамент, ляжаць купы гравію. Змарнаваная людская ініцыятыва, марнуецца цэнны матэрыял. Вёска не ведае, што з гэтым рабіць.

Мо' цяпер, у перыяд вялікай адновы, хто-небудзь аб гэтым падумае?

А. О.

ўвазе два артыкулы: З. Петкевіча ў газеце «Правда», 1910 г. № 39 і Янкоўскага — у газеце «Kurier Warszawski» ад 8 снежня 1910 г. — (заўвага МК). Цяпер тое-ж самае паўтарае Верашчака — паслядоўнік гэтых крытыкаў.

«Не думайце, піша Купала ў адказе да пана Верашчакі, што «парнасікі» не бачылі і не адчувалі ўсёй багатай красы нашай зямелькі з яе горамі, далінамі, рэчкамі і лясамі. Але што маглі казаць, калі большая палавіна гэтага прыроднага багацця, гэтай неапетай красы была і ёсць не наша?... Гледзячы на гэту несправядлівасць, у паэта нараджаўся толькі жаль, што побач з залішняй раскошай народ яго гібее».

У артыкуле «Чаму плача песня наша?» беларускі паэт і крытык у рашучай барацьбе з нацыяналістамі адстаяў напрамак і змест роднай дэмакратычнай літаратуры. Купала разбіў спробу адарваць беларускую паэзію ад актыўнага ўдзелу ў барацьбе за справу народа.

А можа быць артыкул Купалы быў адным са «спекулятыўных прыёмаў» беларускіх буржуазных нацыяналістаў... Так прынамсі можна судзіць пасля вывадаў Абецэдарскага і Сідарэнкі.

І хоць пытанне «Нашай нівы» не знайшло яшчэ канчатковага вырашэння, адно з'яўляецца ясным, што гаспадары газеты былі не ў сілах стрымаць бурнага ўздыму беларускай дэмакратычнай літаратуры. Яны былі прымушаны змяшчаць творы беларускіх дэмакратычных пісьменнікаў, якія выражалі думкі і спадзяванні шматмільённай грамады бяспраўных працоўных беларусаў.

Не нейкія «спекулятыўныя прыёмы» гаспадароў «Нашай нівы», а вялікая сіла лагера беларускіх рэвалюцыйна-дэмакратычных пісьменнікаў мела свой рашучы голас. Дзякуючы творам, якія праўдзіва паказвалі жыццё народа, «Наша ніва» здабыла вялікую папулярнасць сярод шырокіх мас працоўных вёскі і горада. Праўда, што многія творы не траплялі ў «Нашу ніву», — як адзначаюць Абецэдарскі і Сідарэнка, — што кіраўнікі яе друкавалі галоўным чынам, творы агульнадэмакратычнага характару, аднак не трэба забываць аб жорсткіх цэнзурных умовах, дзякуючы якім, напрыклад, шматлікія рэвалюцыйныя творы Купалы не трапілі ў друк. «...Я шмат пасылаў у Вільню, у «Нашу ніву», рэвалюцыйных вершаў, — успамінае Купала, — якіх паводле тагочасных цэнзурных умоў друкаваць нельга было. Яны недзе з архівам «Нашай нівы» загінулі».

Аднак нягледзячы на цэнзурныя ўмовы, у газеце часам паяўляліся прасякнутыя рэвалюцыйнымі імкненнямі купалаўскія вершы такія, як «Касцу», «Лета», «Старая песня на новы лад» і іншыя. Многія з рэвалюцыйных вершаў Купалы, якіх не адважваліся друкаваць гаспадары з «Нашай нівы» распаўсюджваліся ў рукапіснай форме. Буржуазныя гаспадары газеты, каб не страціць кантактаў з вялікім асяроддзем дэмакратычна настроенага беларускага грамадства, якое хацелі перавыхаваць у сваім духу, насуперак сваім пажаданням змяшчалі матэрыялы, якія не адпавядалі іх інтарэсам.

І ў гэтым факце трэба шукаць вялікай супярэчнасці ў іх дзейнасці. Нават Абецэдарскі і Сідарэнка прымушаны заявіць, што «...рэакцыйныя ідэі (Беларускіх буржуазных нацыяналістаў — заўвага МК) рэзка адрозніваліся ад рэвалюцыйна - дэмакратычных поглядаў іншых пісьменнікаў - дэмакратаў, творы якіх друкавала «Наша ніва».

Ці-ж маглі падабацца гаспадарам газеты, напрыклад публіцыстычныя выступленні Я. Коласа, які ў сваіх заметках з Мікалаеўшчыны паведамляў аб барацьбе сялян Беларусі супроць памешчыкаў, аб разгортванні рэвалюцыйнай агітацыі сярод вясковага насельніцтва, або публіцыстычныя вершы паэта, як «Вобразы самаўладства», «Асадзі назад» і іншыя.

Мы ведаем, з якой заўзятасцю беларускія рэакцыянеры зневажалі ўсё звязанае з рэвалюцыяй, прапагавалі сталыпінскую рэформу, падтрымлівалі Дзяржаўную думу, выступалі супроць усялякага прагрэсу. Мы ведаем таксама, што многія з іх адмаўлялі неабходнасць асветы для працоўнага народа, даводзілі непатрэбнасць палепшання ўмоў жыцця беларускага сялянства. Асабліва рэакцыянер Арлоўскі выяўляў сябе злейшым ворагам прагрэсу, з захапленнем апісваў часы прыгону, а школы для сялян прапанаваў замяніць дубінкай. Арлоўскі і многія яму падобныя ўвагу сялян накіроўвалі да «вышэйшай сілы» — Бога, і ўказвалі, што толькі вера ў яго палепшыць іх жыццё. Яны жадалі бачыць беларускіх сялян ціхімі і паслухмянымі.

Супроць такіх намаганняў выступалі беларускія дэмакратычныя пісьменнікі, якія сваю літаратурную дзейнасць спалучалі з асветніцкай працай. Сярод іх, несумненна, першае месца займае беларуская паэтэса Цётка. Гэта яна яшчэ ў 1906 годзе гаварыла аб неабходнасці адкрыцця народных школ, у якіх дзеці беларусаў павінны вучыцца на роднай мове. У «Нашай ніве» ў артыкуле «Як нам учыцца» (№ 1, 1906 г.) яна пісала: «Калі пачнуць у нас уводзіць новыя начальныя народныя школы, трэба канешне, каб дзяцей у іх навучалі па-беларуску, каб тлумачылі ім усё па-тутэйшаму, па-свойму, як дзеці гавораць у хаце з бацькамі і як ім найлягчэй разумець. Тагды дзеці і чытаць скарэй навучацца і пазнаюць лягчэй іншыя мовы — расейскую ці польскую. Дзеля таго ўсе беларусы і ўсе, хто хоча даць народу праўдзівую навуку, павінны дамагацца для беларусаў беларускай начальнай школы».

Я. Купала ў сваёй тагачаснай публіцыстыцы гаварыў аб падняволеным становішчы народа, які быў прадметам торгаў паміж польскімі і рускімі нацыяналістамі і якога ворагі імкнуліся трымаць у вечнай цемры. Аднак беларускі рэвалюцыйны паэт непахісна верыў, што міне гэты час, што «Яшчэ прыдзе вясна!». У артыкуле «А ўсё-ж-такі мы жывём!» («Н. н.,» № 21 — 22, 1914 г.) пісаў: «Душылі яе (Беларусь — заўвага МК) палякі і паншчыну падняволля ў сэрцах няшчаснага народа засявалі, сягоння душаць яе і польскія і рускія нацыяналісты, вядучы між сабой нікчэмны спор за славянскую душу беларуса, але ўсё гэта мела і будзе мець свой канец. Будзіцца самапачуццё народа, паднымае старонка наша свае вочы к сонцу і распраствае свае магучыя плечы».

Чытачы «Нашай нівы» павінны былі добра ўяўляць глыбокі сэнс гэтага купалаўскага артыкула. У гэтым дапамогай ім былі шматлікія рэвалюцыйныя творы Купалы, якія шырока распаўсюджваліся ў рукапісным выглядзе ва ўсёй Беларусі.

Ці-ж можна тады спакойна чытаць тую частку артыкула Абецэдарскага і Сідарэнкі, у якой яны абураюцца на рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва» за тое, што яна займаецца пытаннем «Нашай нівы». Лепш аддадзім голас аўтарам гэтых вывадаў. Вось, што яны пішуць: «Рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» не знайшла нічога лепшага, як аб'явіць па артыкулу М. Ларчанкі нікому не патрэбную дыскусію. Замест таго, каб паслядоўна адстойваць ленінскія прынцыпы партыйнасці літаратуры, па-баявому змагацца супроць усялякіх скажэнняў гісторыі нашай сацыялістычнай культуры, дапамагаць работнікам літаратуры і мастацтва павышаць свой ідэйна - тэарэтычны ўзровень, рэдакцыя газеты стала на шлях «перагляду» бруднай бялізны беларускіх нацыяналістаў, з мэтай знайсці там што-небудзь «станоўчае, каштоўнае, прагрэсіўнае». Такую пазіцыю рэдакцыі газеты можна вытлумачыць толькі стратай пачуцця адказнасці перад нашай грамадскасцю».

Такім чынам пад маркай абароны дарагіх, усім прагрэсіўным людзям, ленінскіх прынцыпаў партыйнасці літаратуры Абецэдарскі і Сідарэнка імкнуцца спыніць дыскусію, падцягнуць першую беларускую газету пад загадзя прыдуманую схему.

Беларускія гісторыкі забываюць аб тым, што ў беларускай нацыянальнай культуры пачатку XX ст. ішла барацьба двух культур: дэмакратычнай і сацыялістычнай супроць культуры буржуазна - нацыяналістычнай. І гэтая барацьба зусім законамерна знайшла сваё адлюстраванне ў «Нашай ніве».

«У кожнай нацыянальнай культуры, — пісаў Ленін, — ёсць хоць-бы неразвітыя, элементы дэмакратычнай і сацыялістычнай культуры, бо ў кожнай нацыі ёсць працоўная і эксплуатуемая маса, умовы жыцця якой непазбежна нараджаюць ідэалогію дэмакратычную і сацыялістычную. Але ў кожнай нацыі ёсць таксама культура буржуазная (а ў большасці яшчэ чарнасоценная і клерыкальная) — прытым не ў выглядзе толькі «элементаў, а ў выглядзе пануючай культуры» (В. І. Ленін, Творы, т. 20, стар. 8).

І таму мы кажам, што хоць выказнікам абодвух напрамкаў давялося супрацоўнічаць у адзінай беларускай газеце, аднак гэты факт не здымаў карэннага разыходжання ў іх палітычных і літаратурна-эстэтычных поглядах.

Зразумела, што прысуд над «Нашай нівай», вынесены Абецэдарскім і Сідарэнкай, не мае нічога супольнага са спакойнымі, дзелавітымі спрэчкамі. А толькі спрэчкі пры ўдзеле шырокіх кругаў беларускіх савецкіх літаратуразнаўцаў і гісторыкаў, могуць даць адказ на гэтае важнае пытанне беларускага літаратуразнаўства. На адказ чакаюць таксама беларусы ў Польшчы.

Мгр МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ



 

# Як зарабіць 2.000 зл. у месяц

Часта многія гаспадары лічаць гадоўлю курэй маладаходнай. Чаму? На гэта складаецца шэраг прычын.

Адной з галоўных такіх прычын з'яўляецца тое, што многія не ведаюць, як карміць куры, каб добра несліся.

Асноўныя прадукты, якія вымагае арганізм куркі, гэта: збожжа, бульба, зеляніна і вапнёвыя рэчывы. Вясною, летам і восенню яна ўсё гэта мае. Але калі настануць прымаразкі і выпадзе снег — зеляніны і вапнёвых рэчываў яна ўжо не можа знайсці ў дастатковай колькасці. Тады курыца перастае несціся (пры гэтым варта падкрэсліць, што так вялікі перапынак у нясенні мае таксама шкодны ўплыў і на яе арганізм).

А каб курка неслася і ўзімку, патрэбна забяспечыць яе адпаведнай колькасцю, так званай, зялёнай масы і вапнёвых рэчываў.

У адпаведна цёплым мейсцы, зімою, можна гадаваць у старых вёдрах ці гаршчках збожжавую рунь, можна спецыяльна збіраць для курэй лісцепадобныя рэшткі сена ці канюшыны (сухая зялёная маса). Гэта ўсё можна скормліваць разам з цестам. Да цеста можна дадаваць яшчэ дробна пасечаныя буракі ці моркву.

Апрача гэтага трэба падрыхтаваць адпаведную колькасць мажліва чыстага пяску, мелены шкарлупін ад яек і меленых касцей (касцявая мука).

Гэтыя прадукты трэба даваць курам р э г у л я р н а.

Так, агульна, выглядзіць рацыянальнае карменне курэй.

Далей трэба памятаць аб тым, што куры павінны мець цёплы і відны курнік. Бо толькі тады яны будуць маглі знесці ў сярэднім каля 150 яек у год.

Дакладныя весткі на гэтай справе зацікаўлены чытач знойдзе ў спецыялістычных кніжках («Хув кур»—Дубіская), якія можна дастаць у кожнай кнігарні.

Цяпер разгледзім, так сказаць, эканамічны бок гадоўлі курэй. Напрыклад, наладзіўшы гадоўлю курэй, ну, на 250 штук, пабачым, што ім патрэбна і што з такой гадоўлі можна атрымаць (зразумела, што не кожны гаспадар можа сабе дазволіць на гэтаку гадоўлю, — тады можна арганізаваць калектыўную гадоўлю).

Корм палічым паводле арыентацыйных вольнарынковых цэн, а цэны яек, мяса і пер'я палічым паводле дзяржаўных цэн.

Для адной куркі ў год патрэбна каля 15 кг. збожжа, 30 кг бульбы і 10 кг зялёнай масы. Зробім просты падлік.

Для 250 курэй у год патрэбна:

1. Збожжа:
   250х15=37,5 цэнт.
2. Бульбы:
   250х30=75,0 цэнт.
3. Зялёнай масы.
   250х10=25,0 цэнт.

Зялёнай масы не лічым.

Адзін цэнтнер збожжа (ячмень, авёс) у вольнай продажы каштуе, у сярэднім, каля 350 зл., а адзін цэнтнер бульбы, у сярэднім, каштуе каля 100 зл. Цяпер зробім агульны падлік:

1. Збожжа: 37,5х350 зл. = 13.125 зл.
2. Бульба: 75,0х100 зл. = 7.500 зл.

Разам: = 20.625 зл.

Пры а д п а в е д н ы м доглядзе, курка знясе ў год каля 150 яек. У сярэднім, на кілограм ідзе каля 18 яек. З гэтага ў год адна курка знясе: 150:18 = 8,33 кг, — а 250 курак у сярэднім знясе ў год: 250х8,33 =2.028,5 кг.

За адзін кілограм яек дзяржава плаціць, у сярэднім, (не лічачы высокай цаны зімою), каля 22 злоты. Тады агульная сума за яйкі складзе: 2.082,5х22=45.815 зл.

З гэтага ч ы с т ы даход складзе: 45.815—20.625=25.190 зл. (Не ўлічана тут даходу з продажы мяса і пер'я).

А за кілограм курынага мяса дзяржава плаціць ад 13,5 да 17,5 злоты, — у залежнасці ад катэгорыі. За кілограм пер'я, — 10 зл. (Цэны на яйка і мяса ў вольнай продажы часта значна вышэйшыя).

Падлік зроблена так, як-бы ўсе гэтыя харчы (збожжа і бульба) трэба было купіць. Як бачым, кожны, нават малазямельны гаспадар можа зарабіць, калі схоча, 2.000 злоты ў месяц.

Дарагія Чытачы! Калі хто з вас зацікавіцца гадоўляй курэй, напішыце, дапаможам залажыць птушкаферму. (ся)

## Гараж без сцен

У Чыкаго пабудавана больш дзесятка парк-гаражоў, большасць з якіх мае вышыню ў 12—14 паверхаў. Вышынны парк-гараж — жалезабетоннае збудаванне — здалёку нагадвае шырокую этажэрку. Знадворныя сцены ў ім адсутнічаюць. Замест іх па ўсёй вышыні працягнуты сталёвыя тросы.

Дастаўка аўтамабіляў на любы паверх гаража займае не больш мінуты і робіцца з дапамогай ліфтаў, якія побач з вертыкальным пад'ёмам могуць рухацца разам з шахтай і па гарызанталі. Праём для ліфтаў займае сярэдзіну гаража. Па абодва бакі праёма размешчаны «ячэйкі» для аўтамабіляў.

Кулінарыя

### Стравы з грыбоў

САЛАТ

Узяць салёныя, марынаваныя або кансерваваныя дробныя грыбы (вялікія грыбы папярэдне нарэзаць), дадаць да іх рэпчатую нашынкаваную цыбулю, нарэзаныя скібкамі салёныя памідоры, алей, воцат, соль і чорны перац. Усё змяшаць і выкласці на талерку, упрыгожыўшы зверху кружкамі рэпчатай цыбулі.

На 500 г грыбоў 50 г рэпчатай цыбулі, 150 г памідораў, 2 сталовыя лыжкі алею, 4 сталовыя лыжкі воцату. Соль і перац — па густу.

## ЦІКАВЫЯ ФАКТЫ

У Швейцарыі на афіцыяльнай дзяржаўнай службе лічыцца 90 кошак. Бюджэтам на іх утрыманне штогод выдзяляюцца пэўныя сумы. У задачу гэтых «дзяржаўных служачых» уваходзіць змяншэнне колькасці мышэй і пацукоў у вядомым Сімплонскім тунелі.

* * *

Паводле падлікаў замежных вучоных, палёт на Месяц і на Марс у нашых умовах можа абысціся ў 50 мільярдаў долараў.

* * *

Дзве тысячы год назад кітайскія майстры ўмелі рабіць цудоўную фарфаравую пасуду, таўшчыня сценак якой не перавышала шкарлупы ад яйка.

## Руда на Беласточчыне

У аколіцы Нараўкі (3 км ад мястэчка) яшчэ пры царскай уладзе выкапана яр дзеля таго, каб выпраставаць пятліцу ракі Нараўкі. У яры гэтым заўважана вялізныя брылы ўтвараючыя (на выгляд) даволі вялікія паклады жалезнай руды. Больш - менш ацэньваецца, што гэтыя руды маюць больш 20 працэнтаў жалеза.

Так, напрыклад, у аколіцах Чэнстаховы руды гэткія эксплуатуюцца. У адным толькі яры (вокам бачаныя) паклады руды трэба акрэсліць на некалькі тысяч тон. Кусок гэткай руды накіравана ў Глівіцкі металургічны інстытут з мэтай акрэслення колькасці жалеза ў ёй.

## Птушкаферма



*У ПГР-ы Вітухава (павет Мендзыхуд) вядзецца птушкаферму на 2000 штук курэй. Ферма дае каля 150 тысяч зл. даходу ў год.*

*На здымку: працаўнік фермы — Багуміла Врублеўская падчас кармлення курэй.*

*ЦАФ, фото — Медза.*

Які госць такая яму і чэсць

## На забаве

Калі хочаш затанцаваць з дзяўчынай, якая знаходзіцца ў кампаніі іншых асоб — тады падыйдзі, лёгенька агульна ўсім пакланіся, пасля таго пакланіся ёй і спытай «Ці можна вас прасіць?». Няма абавязку прасіць мужчыну, (з якім прыйшла на забаву), каб пазволіў затанцаваць, аб гэтым яна сама вельмі добра вырашыць. Яшчэ сёння можна сустрэць, што некаторыя іменна да мужчын звяртаюцца ў гэткім выпадку, але трэба ведаць, што гэты звычай цяпер ужо час закінуць і ветлівасць гэтага непатрабуе.

Калі ўжо дзяўчынка згодзіцца і ўстае, каб ісці танцаваць, а ты асабіста незнаёмы з ёю — то неабходна мусіш ёй прадставіцца. Пасля танца адводзіш танцорку на мейсца, пасля чаго кланяешся ёй і ўсёй яе кампаніі і адыходзіш, але калі (і так можа быць) яна прапануе табе далучыцца да кампаніі — тады ўсім прадстаўляешся (знаёмімся) і калі ўбачыш, што ахвотна цябе ўспрымуць — можаш з імі застацца, аднак не абавязкова на цэлы вечар. Калі ідзеш на забаву з дзяўчынай — то памятай, што нельга кінуць яе на папас лёсу і забавіцца недзе ў якой-небудзь іншай кампаніі ў той час, калі яна сама падпірае сцяну. Трэба дбаць, каб яна вясёла і добра бавілася, апекавацца ёю, пільнаваць усялякія дробязі, якія дала табе захаваць (напрыклад хустачку, ці нумар вешалкі ў раздзявальні), а пасля забавы трэба (неабходна!) правесці дахаты.

## На вуліцы

Ідучы з дзяўчынай — трэба ўважаць, каб знаходзіцца пры яе левым баку, таксама ідзецца і (напрыклад) з прафесарам. Ідучы ўтрое — асобу пажылую бярэцца ў сярэдзіну. У паасобных пераходах перш прапускаецца асобу пажылую (таксама і дзяўчыну) толькі, калі цесны натоўп, або кользкая дарога — тады мужчына ідзе першы. Ідучы з жанчынай трэба памагчы несці ёй (калі мае) пачку, ці тэчку, ці чамадан, а нават і сетку выпханую ўсялякімі прадуктамі ці гароднінай. Штопраўда дзяўчаты часта адмаўляюць і не хочуць прыняць гэткай дапамогі, але не маюць рацыі (запамятайце дзяўчаты!). (зб)

# Францішак Багушэвіч аб беларускай мове

*(Прадмова да «Дудкі беларускай»).*

Братцы мілыя, дзеці Зямлі-Маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі - нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя, «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай». Я сам калісь думаў, што мова наша — «мужыцкая» мова і толькі таго. Але, паздароў Божа добрых людзей, як навучылі мяне чытаць, пісаць, з той пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і прakanаўся, што мова нашая ёсць такая-ж людская і панская як і французская, альбо немецкая, альбо і іншая якая. Чытаў я ці мала старых папераў па дзвесце, па трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысцюсенькай, як-бы вот цяпер пісалася. Увідзеўшы гэта, я часта думаў: Божа-ж мой, Божа! Што-ж мы за такія бяздольныя?! — Якаясь маленькая Булгарыя — са жменя таго народу — якіясьці Харваты, Чэхі, Маларосы і другія пабратымцы нашыя... маюць па-свойму пісаныя і друкаваныя ксёнжачкі і газеты, і набожныя, і смешныя, і слёзныя, гістарыйкі, і баечкі; і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць, а ў нас як-бы захацеў цыдульку ці да бацькі лісток напісаць па-свойму, дык можа-б і ў сваёй вёсцы людзі сказалі, што «піша па-мужыцку», і як дурня абсмяялі-б! А можа і сапраўды наша мова такая, што ёю нічога добрага сказаць, ні напісаць не можна? Ой, не! Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людзям, і гаворым-жа мы ею шмат і добрага, але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек, нераўнуючы, як і паны вялікія ахвотней гаворуць па-французску, як па-свойму. Нас-жа не жменька, а з шэсць мільёнаў — дык і шмат больш... як жыдоў, напрыклад, або татар, ці армян, а пакажы-ж, ваша, хоць адну ксёнжачку ці аб гаспадарцы, ці так аб жыцці нашым, каб па-нашаму?

Ці-ж ужо нам канешне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але наперш трэба знаць сваю. Перадумаўшы ўсё гэта, я, братцы, адважыўся напісаць для вас сякія-такія вершыкі: хто іх спадабае, таму дзякуй! А хто падумае лепш і больш напісаць, таму чэсць вечная і ад жывых людзей і ад бацькавых касцей! А пісаць ёсць шмат чаго...

Спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, як і з Польшчай з'едналася добраволькая, дык усе яе «Б е л а р у с і я й» звалі і недарма-ж гэта! Не вялікая, не малая, не чырвоная, не чорная яна была, а белая, чыстая: нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася.

Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, каторыму мову займе, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць людзей ці па г а в о р ц ы, ці па адзежы, хто якую носе; ото-ж г а в о р к а, язык і ёсць адзежа душы.

Ужо больш, як пяцьсот гадоў таму, да панавання князя Вітэнеса на Літве, Беларусія разам з Літвай баранілася ад крыжацкіх напасці і шмат местаў, як Полацк, прызнавалі над сабой панаванне князёў літоўскіх, а после Вітэнеса літоўскі князь Гедымін злучыў зусім Беларусію з Літвой у адно сільнае каралеўства і адваяваў шмат зямлі ад крыжакаў і ад другіх суседаў. Літва пяцьсот дваццаць гадоў таму назад ужо была ад Балтыцкага мора ўдоўжкі аж да Чорнага, ад Дняпра і Днястра ракі да Нёмна; ад Каменьца места аж да Вязьмы, — у сярэдзіне Літвы, як тое зярно ў гарэху, была наша зямліца — Б е л а р у с ь!

Можа хто спытае: гдзе-ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Мінск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...

МАЦЕЙ БУРАЧОК.




У пясках Сахары знойдзена вялікія колькасці нафты. У сувязі з гэтым на Блізкім Усходзе ізноў распальваецца барацьба паміж пасобнымі канцэрнамі і трэстамі, за якіх плячамі стаяць і ўрады вядомых дзяржаў.

Яшчэ адна косць нязгоды.

(з газет)




*Ааза.*

## Службісты

Кандуктар да пасажыра:

— Тут ня можна курыць.

— Але-ж я адзін.

— Гэта нічога, хоцьбы і нікога ня было, усё роўна не можна курыць.

## Зусім зразумела

Маленькі Стасюк пытаецца ў бацькі:

— Скажы, татка, чаму гэта пішуць, што работнікі на ўсім свеце бунтуюцца?

— Што-ж дзіўнага, што яны бунтуюцца. Налажы на каня за многа, — ён таксама наравіцца, ня цягне.



*Ен заўсёды выпісвае «Ніву».*

## Нявестка

Радуецца старая Сымоніха — ажаніўся сын, у хаце паявілася нявестка Будзе цяпер падмога ў гаспадарцы.

— Схадзі, Настачка, — кажа свякроў да нявесткі раніцай, — прынясі вады са студні.

Схапіла вёдры Наста і бягом паімкнула да студні.

«Увішная, працавітая», з задавальненнем думае пра яе Сымоніха. Але праходзіць пяць, дзесяць, дваццаць хвілін, поўгадзіны, гадзіна, а нявесткі няма. Ужо ў печы дровы дагараюць, снеданне не згатавана.

Занепакоеная старая выйшла з хаты і тут сутыкнулася з нявесткай, якая з поўнымі вёдрамі ішла дахаты.

— Дзе-ж ты гэтак доўга была, Настачка? — Запыталася ў яе свякроў.

— А матухна, а даражэнькая! Але-ж і языкатыя ў вашай вёсцы кабеты. Як сабралося іх з дзесятак ля студні, дык ледзь перагаварыла іх. Але ўсім ім дасталася, у дадатак яшчэ і дуляў надавала. А. Тр.

## Партфель аднаго рэвізора



*Да рэвізіі...*



*...і пасля рэвізіі.*

## Маленькае непаразуменне

Рэдактар: Сёння з-за вас зусім не мог спаць. Усю ноч успамінаў вас.

Сакратарка: (чырванеючы): Ой, не можа гэта быць!

Рэдактар: Усю ноч папраўляў я вашы памылкі, якіх вы нарабілі ў вельмі важных рэдакцыйных актах.

## КРАСФОРД



Па вертыкалі

1 Служыць у марскім флоце
2. качаўнічы, вандроўны чалавек. (Пераважна гандлююць яны коньмі, жанчыны варожаць...),
3. скупы чалавек,
4. грэчаскі філосаф,
10 бывае тады, калі разліваецца рака,
11 інакш чалавек белай расы
13. «урачыстае» заканчэнне гандлёвага дагавора
14. цяпер СССР,
15. гатунак сабакі, які капае ямы,
16 сталіца Японіі,
22 інакш прырода,
24 вядзе самалёт,
25 частка сядла,
26 закідаюць у мора, дзеля затрымання карабля.
30. горы ў Поўднёвай Амерыцы,
31. палетак збожжа, вядомы беларускі часопіс,

Па гарызанталі:

5. легендарны лётчык, які паляцеў надта блізка каля сонца,
6. жаночае імя,
7. называюць чалавека, які вельмі многа есць,
8. месца адпачынку,
9. музычныя знакі,
10. птушка з прыгожым хвастом,
12. робім тады, калі разглядаем лепшае і горшае,
15. знаходзяць на беразе мора, пераважна робяць з яго пацёркі,
17. пасудзіна, ў якой гадуюцца «залатыя» рыбкі,
18. маюць нейкія лодкі і караблі,
19 інакш прыказ,
20. назва акіяна,
21. назва фруктавага дрэва,
23. акцёр, які смешыць у цырку,
25. поўночная рэспубліка СССР,
27. інакш сажалка,
28. дамовыя жывёлы — вельмі любяць іх дзеці,
29 куст, якога фрукты падобныя да фруктаў рабіны,
32. лапаюць ім дзікія коні,
33. рака ў Сібіры,

Сярод чытачоў, якія да 15 красавіка прышлюць дакладныя развязкі, будзе разыграна 10 кніжных узнагарод.

# Варшаўскія прыгоды

Хто ведае, мо' гэтай прыгоды і не было-б, каб не мой брат, які жыве ў Совецкай Беларусі.

Для яснасці трэба Вам ведаць, што брат мой мае вельмі добрае сэрца, зрэшты як і ўся наша сям'я і хаця жыве за мяжой — ніколі мяне не забывае. Вось і зараз, мабыць ад некуль даведаўшыся, што ў нас на Беласточчыне, а асабліва ў нашым Гайнаўскім павеце не зусім добра наладжана камунікацыя, а пакупка такога механічнага сродка зносін як напрыклад матацыкл, спраўляе не малыя клопаты звычайнаму малазямельнаму мужыку (трэба-ж злажыць на кніжачку ПКО—7.000 злоты, апрача таго атрымаць яшчэ талон, што ў практыцы з'яўляецца зусім немагчымым) — вырашыў прысладь мне ў падарунку матацыкл (мабыць у Совецкай Беларусі можна яго купіць без кніжачкі ПКО і талона).

Ну што-ж за добрую памяць, а асабліва за матацыкл, я вельмі ўдзячны брату. Аднак дзеля атрымання яго я вымушаны быў паехаць у Варшаву.

Гэтую паездку ўспамінаю з жахам.

А было гэта так.

Матацыкл атрымаў я на Гданьскім вакзале. Ну, думаю, як-жа я яго дастаўлю на Віленскі вакзал, ездзіць на матацыклі пакуль што не ўмею, не павяду-ж яго тратуарам.

Не ўспеў я падумаць, як перада мною, быццам у казцы, раптоўна затрымалася грузавая машына. З кабіны амаль на хаду выскачыў малайцаваты шафёр.

— Вам куды трэба — спытаў ён мяне?

А гэта што за цуда — здзівіўся я, адкуль-жа ён ведае, што мне трэба ехаць. Ад уражання мне аж у галаве закружылася, не ведаю што яму і адказаць.

— На Віленскі вакзал трэба — прагаварыў я ў канцы, аж бачу ўжо матацыкл мой стаіць на машыне. А шафёр — такі ветлівы, хоць ты яго да раны прыкладай.

Ну, думаю, каб ён толькі не злупіў з мяне надта многа.

— Колькі-ж вам плаціць за перавоз? — асцярожна пытаю.

Ён зірнуў вымоўна на мой матацыкл ды кажа:

— Прыгожы маторчык, няма што — «К—55». А цана за перавоз — дробязь, няма аб чым і гаварыць, усяго 80 залатовачак.

Я ўздыхнуў з палёгкай, выняў з кішэні грошы і заплаціў. Узабраўся я на грузавік: мы паехалі.

Едзем мы ўжо так даўжэйшы час, а Віленскага вакзала, як няма так і няма. Давай я бубніць кулаком у кабіну. Шафёр затрымаў, выглянуў з кабіны і пытае мяне, што здарылася.

— Пакуль што нічога, — адказваю, — аднак скажыце, калі ласка, чаму-ж вакзала не відаць.

Шафёр ўсміхнуўся ды пытае:

— Вы былі ўжо калі-небудзь у Варшаве?

— Не, — кажу, — не прыходзілася.

— Ну вось бачыце, — выясніў шафёр, — я-ж спецыяльна еду даўжэйшай дарогай, каб пазнаёміць вас са сталіцай. Калі ласка, глядзіце і захапляйцеся.

Адлягло мне ад сэрца, паспакайнеў я і думаю: «Не, гэты чалавек не мае дурных нам раў». Тады паддаўся я цэлым сэрцам гэтай прыемнай экскурсіі па Варшаве. Гляджу і надзівіцца не магу. Вакол мяне дзівы дзіўныя. Прыгожыя дамы, а высокія, высокія. Глянеш аж у галаве закружыцца. Людзі быццам тыя мурашкі па тратуарах бегаюць, папыхаюцца. Здаецца чаго-ж ім так спяшацца.

А мы ўсё едзем ды едзем, час бяжыць, а Варшаве і канца няма.

Мяне ізноў нейкі непакой ахапіў. Давай я зноў па кабіне малаціць кулаком.

А шафёр нават і вухам не вядзе на гэта, толькі прэ далей. Вось ён скруціў у нейкую бочную вулічку. А тут навакол самыя грузы.

Шафёр прытармазіў. З разваленага дома выскачыў нейкі франт, на хаду ўскочыў у кабіну і прэм далей. Ну, думаю, канец і годзе.

Раптам скрыжаванне вуліц, грузавік затрымаўся. Выскачыў я з машыны і да шафёра:

— Годзе! — далей не паеду. Тут — кажу — сваякоў маю.

— А хто яны такія? — запытаў з цікавасцю шафёр.

— А вунь стаяць, бачыце якія прыгожыя хлапцы — сказаў я, паказваючы на міліцыянераў. — Калі хочаце магу пазнаёміць.

Шафёр толькі скрыгнуў зубамі.

— Ну добра — кажа — злазь як не хочаш далей ехаць.

Толькі я ўспеў з грузавіка зняць матацыкл, а шафёр на газ, быццам чорт панёсся, толькі я яго і бачыў.

А тут ужо і міліцыянеры да мяне падыходзяць.

— У чым справа? — пытаю.

Расказаў я ім у якіх быў перапалах.

— Чалавеча, кажа адзін з іх. — Ці-ж ты ніколі не чуў пра Варшаўскіх жулікаў. Дзякуй Богу, што так абыйшлося.

Пры іх дапамозе дабраўся я на Віленскі вакзал і толькі тут уздыхнуў з палёгкай.

Не раджу Вам, даражэнькія, сядаць у Варшаве ў першую напатканую машыну. Хто ведае, што можа здарыцца. Яшчэ ёсць у нас усялякія людзі.

М. НЕУГАМАННЫ.

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Адрас рэдакцыі гор. Беласток, вул Маніфесту Ліпцовага 25, тэл 25-89 Умовы падпіска на 3 месяцы — 7 зл. 20 гр., 6 месяцаў — 14 зл. 40 гр., на год — 28 зл 80 гр Konto NBP I Oddz Mieiski Nr 102-7-161 Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы, Выдавецтва РСВ «Праса». Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку. Т-10